Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару 15 г.

№ 18. Вільня, нядзеля 11 лістапада 1928 г. Год II.

# НАРОД

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.

РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.

ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

ЦАНА АБЕСТАК:
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

Выходзе 4 разы у месяц.

## Дзеля беларускага хатняга прамыслу.

У ранейшых нумарох „Народу“ мы паказалі якое вялікае значэньне для беларускага сялянства й мяшчанства можа мець развой беларускага хатняга прамыслу. У гэтым нумары хочам паказаць, што ўжо робіцца дзеля гэтага развою.

Вось-жа у Вільні закладзены і зацьверджаны ўжо беларускі коопэратыў „Хатні Прамысл“ з прасторам дзейнасьці на ўвесь край. Коопэратыў адчыніў свой магазын у Вільні, ля Астрабрамскай вул. N 2. У магазыне „Хатняга Прамыслу“ будзе прадавацца гэт'кі хатні прамысл (рэчы хатняй работы): 1) т к а н і н ы (палатно, сукно, ручнікі, абрусы, посьцілкі, паясы і інш.), 2) в я з а н ы я р э ч ы (сьвэтры, шалі, шкарпэткі, панчохі, рукавіцы), 3) к а ш ы, спачатку звычайныя вясковыя, а потым на заказ валізы і інш., 4) р ы б а ц к і я п р ы л а д ы (сеткі, трыгубіцы і інш.), 5) г а н ч а р н ы я в ы р а б ы (жбаны, гаршкі, місы, талеркі і інш.), 6) к а х л ю, 7) вырабы зь дзерава бондарскія, такарныя й сталярскія (лыжкі, паловікі, начоўкі, бочкі, асады да інструмэнтаў і шмат чаго іншага), 8) усялякае народнае мастацтва і інш.

Із статутам коопэратыву „Хатні Прамысл“ чытары пазнаёмяцца з абесткі на апошняй стар. „Народу“.

Тут зазначым, што тавар у свой магазын коопэратыў „Хатні Прамысл“ будзе купляць і браць на комісыю (возьме ў магазын рэч на продаж, а як прадасьць, тады аддасьць грошы), пры гэтым будзе старацца купляць і браць на комісыю толькі ў сяброў і сяброваk кооп. „Хатні Прамысл“.

Каб стацца сябром „Хатнягя Прамыслу“, трэба заплаціць пай 12 зал. і 1 зал. ўступных. Пай пры выступленьню з коопэратыву варочаецца. Можна плаціць адразу 12 зал. або 4-ма ратамі ў працягу году. Можна плаціць пай таварам. Даючы так-жа тавар на комісыю, можна зазначыць, каб пасьля прадажы вылічылі пай.

У справах коопэр. „Хатні Прамысл“ трэба зварочавацца па адрэсу: Вільня, Астрабрамская вул. 15 кв. 3. У сябры „Хатняга Прамыслу можна запісавацца так-жа ў беларускай кнігарні ў Маладэчане, Ашмяне й Лідзе.

*Давідовіч.*

## Каб ня даць дазваленьня—ня прыймаюць памяшчэньня пад школу.

На жаданьне насяленьня м. Валожына й ваколіцаў Беларускі Гаспадарскі Зьвяз пастанавіў адчыніць у Валожыне або ў блізкой ад Валожына вёсцы прыватнаю беларускаю школу пачаткаваю.

Знайшоўшы добрых вучыцялёў, Цэнтр. Ўрад Б. Гасп. Зьвязу падаў у пачатку жніўня сёлета адпаведнаю заяву віленскаму куратару.

Адказ на сваю заяву Зьвяз дастаў ад куратoрыі ажно 1-га верасьня, пры гэтым дата на прысланай з куратoрыі паперы была 23 жніўня. Адзначаем гэтаю дробязь каб паказаць, што ў канцылярыі куратoрыі Беларусы пэўне маюць непрыяцелёў, каторыя задзержуюць паперы, адрасаваныя беларускім арганізацыям.

Куратoрыя ў сваім адказе Зьвязу пісала, паміж іншым, што трэба пасьведчаньне павятовага лекара аб годнасьці памяшчэньня пад школу. 4 верасьня Зьвяз перадаў паперу павят. лекару ў Валожыне, просячы яго агледзіць памяшчэньне і выдаць устаноўленае пасьведчаньне.

Нягледзячы на тое, што павят. лекар др. Чыж жыве ў Валожыне, ён адцягаваў агледзіны памяшчэньня; прадстаўніку Зьвязу ў Валожыне прыйшлося разоў шэсьць хадзіць да дохтара, каб тойнарэсьце „зрабіў ласку“ паехаў на хурманцы прадстаўніковай агледзіць памяшчэньне.

Па агледзінах гаспадар дому (ён-жа прадстаўнік Зьвязу) зьвярнуўся да дохтара з пытаньням, ці няма якіх загана у памяшчэньні, заяўляючы, што зараз усё было-б папраўлена. Лекар нічога ясна не адказаў, кажучы, што ён пашле паперу Цэнтральнаму Ураду Зьвязу ў Вільню. Із слоў лекара выглядала, што ён прызнаў памяшчэньне годным пад школу.

Але 19 верасьня быў у лекара ў гэтай справе пасол Я. Станкевіч і аказалася, што лекар памяшчэньня пад школу ня прыняў і выслаў аб гэтым паперу Зьвязу ў Вільню. Ясна, што лекар адразу не сказаў гэтага прадстаўніку Зьвязу, каб перашкаджаць Зьвязу ў вадчыненьню школы, пакідаючы яго дальшы час у няведаньню.

Заганы, знойдзеныя лекарам у няпрынятым памяшчэньню, можна было лёгка аддаліць, але відаць было, што справа не ў заганах, а ў тым, што лекар наагул ня хоча прыняць памяшчэньня пад беларускаю школу, каб гэтай школе ня даць адчініцца. Дзеля таго ў в. Панізьзе, прылучанай да м. Валожына, знайдзена было ў доме Васіля Балашкі такое памяшчэньне, у якім заганаў знайсьці было немагчыма; у п а м я ш ч э н ь н ю г э н ы м б ы л а д а г э т у л ь у п р а ц я г у н я м е н е й т р о х г о д у р а д о в а я п о л ь с к а я ш к о л а. Жадных зьменаў у памяшчэньню ня сталася, бо дом новы. 20 верасьня пас. др. Я. Станкевіч пакінуў пав. лекару заяву з просьбай агледзіць новае памяшчэньне.

Праходзіў час, але лекар памяшчэньня не агляДаў і нічога Зьвязу не адказаваў. Напасьледак мясцоваму, валожынскаму прадстаўніку Зьвязу, каторы некалькі разоў прыходзіў да яго ў гэтай справе, лекар заявіў, што ён памяшчэньне агледзіць адмаўляецца, бо ў гэтай справе павінен да яго зьвярнуцца куратар або стараста, а ня Зьвяз. Агледзіўшы на заяву Зьвязу першае памяшчэньне, лекар адмовіўся агледзіць на такую-ж заяву памяшчэньне другое, а каб не выдаваць аб гэтым дакумэнту, дык не напісаў у Зьвяз, а сказаў толькі вусна прадстаўніку Зьвязу. Ясна было, што лекар наўмысьля не хацеў агледзіць памяшчэньне, каб ня быць змушаным выдаць пасьведчаньне. Дзеля таго Цэнтр. Ўрад Зьвязу, даведаўшыся аб гэтым, наслаў адну паперу ў куратoрыю, паказуючы, што ня можа падаць пасьведчаньня аб годнасьці памяшчэньня пад школу, бо лекар адмаўляецца яго агледзіць, і просячы, каб куратoрыя сама зьвярнулася да лекара, а другую (4 кастрычніка) пав. старасьце ў Валожыне, просячы, каб загадаў лекару агледзіць памяшчэньне. Але й просьле гэтага лекар памяшчэньня не аглядаў. Напасьледак, 11 кастрычніка пас. др. Я. Станкевіч адумысьля паехаў у гэтай справе да пав. старасты ў Валожыне. Просьле гэтага лекар 17 кастрычніка памяшчэньне пад школу агледзіў і напісаў Цэнтр. Ураду Зьвязу, што яно ня годзіцца пад пачаткаваю школу з 4-ма адзьдзеламі*).

Зацемім, што польская пачаткавая школа ўрадовая, каторая памяшчалася ў вышменаваным памяшчэньню, мела ня меней 4-х адзьдзелаў.

*) Дзеля характарыстыкі адносінаў урадніка-лекара да прадстаўнікоў беларускіх арганізацыеў, варта адцеміць, што калі па агледзінах 17. Х. мясцовы прадстаўнік Зьвязу зьвярнуўся да лекара з пытаньням, ці прыняў ён памяшчэньне, гэты адказаў: „Dokąd będziecie zawracać mnie głowę?“.

Зацемім яшчэ, што калі аб першым памяшчэньню лекар даў адмоўны адказ умотываваны, дык аб другім бяз жадных мотываў; відавочна мотывы трудна было прыдумаць.

Дзеля таго, што лекар у сваёй адмове выдаць пасьведчаньне напісаў, што не прызнае годным памяшчэньне „пад школу з 4 ма адзьдзеламі“, Ц. Урад Зьвязу зьвярнуўся да яго 20. Х. з пытаньням, ці прызнае годным яго пад школу з двума й адным адзьдзелам. Дагэтуль адказу нямашака.

Адначасна Ц. У. Зьвязу, уважаючы няпрызнаньне лекарам памяшчэньня годным пад школу з 4-ма адзьдзеламі несправядлівасьцяй, падаў на лекара скаргу ў Наваградзкае вайводзтва.

Мусім тут адцеміць, што робе ўсё гэта пав. лекар не сваім адумам. Ён бяссумлеву ня прызнаў памяшчэньня годным пад беларускаю школу ў паразуменьню з пав. школьным інспэктарам, старастаю і з куратoрыяй.

Гэт'кія нягодныя й несправядлівыя адносіны адміністрацыі да беларускай асьветы!

Вось дзе прычына таго, што насяленьне беларускае адносіцца нягодна да польскай гаспадарсьцьвенасьці, што гэтае насяленьне перакапана ў паражцы Польшчы на прыпадак вайны яе із суседзьмі. Перакананьне гэтае ўзьнікла не із зразуменьня „слабасьці“ Польшчы або сілы ейных непрыяцелеў, але із собскай ненавісьці.

*Зьвязовец.*

## БЕЛАРУСКІ ГАСПАДАРСКІ ЗЬВЯЗ.

— *Курсы для дарослых.* Беларускі Гаспадарскі Зьвяз дастаў ад Наваградзкага Павятовага Старасты дазваленьне на Беларускія Курсы для Дарослых у в. Ахонаве, Наваградзкага пав.

— *Кнігарні.* Апрача кнігарні ў Лідзе й Валожыне, адчынена ашчэ Кнігарня Бел. Гасп. Зьвязу ў Маладэчане, рог замковай вул. і рынку і ў Ашмяне, Альшанская вул. N 3.

### Новыя Таварыствы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу:

1) 31—VIII—28 закладзена Т-ва Б. Гасп. Зьвязу ў в. Парэчча, Палачанскае вол. Маладэчанскага пав.;

2) 22—IX—28 закладзена Т-ва Б. Гасп. Зьвязу ў в. Ганчыцы, Валожынскае вол. і пав.

3) 23—IX—28 г. закладзена Т-ва Бел. Гас. Зьвязу ў в. Сугвазды, Валожынскае вол. і пав.

4) 30—IX—28 г. закладзена Т-ва Бел. Гасп. Зьвязу ў в. Альшанка, Вішнеўскае вол., Валожынскага пав.

З якіх апошнім часам у Валожанскім Павятовым Старастве зарэгістрованы наступныя Таварыствы: 1) у м. Валожыне, 2) у в. Ганчыцы, 3) у в. Сугвазды і 4) у в. Альшанка.

### Новыя Коопэратывы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

1) 23—IX—28 закладзена Коопэратыва Земляробска-Гандлёвая „Серп“ у в. Сучвазды, Валожанскае вол. і пав;

2) 30—IX—28 г. закладзена Коопэратыва Земляробска-Гандлёвая „Сноп“ у в. Альшанка, Вішнеўскае вол., Валожынскага пав.

### Надгарода за выстаўку.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз дастаў срыбрны мэдаль за выстаўку беларускага хатняга прамыслу на краёвай выстаўцы ў Вільні.

Як ведама, яшчэ прызнана 20 надгародаў собсьнікам экспонатаў, што далі свае рэчы на выстаўку Беларускаму Гаспад. Зьвязу, але каму прызнана, дагэтуль ня ведама, бо ацэначная комісыя яшчэ ня скончыла свае работы.

— *Коопэратыў „Колас“ у Валожыне* зарэгістраваны ўжо акружным судом у Вільні. У сябры кооп. можна ўступаць у сэкратара Праўленьня с. Міхала Шакуна ў в. Капусьціна ды хіба ў Беларускай Кнігарні ў Валожыне.

— *Патрэбны інструктар.* Беларускі Гаспадарскі Зьвяз шукае інструктара ганчарных вырабаў, а так-жа кахлі, цэглы й дахоўкі. Праца заўсёдная.

## Акружным Управам, Гурткам і Сябром Таварыства Беларускае Школы.

Дачасная Паўнамочная Комісыя Таварыства Беларускае Школы паведамляе, што Агульны Сход Таварыства, які быў вызначаны на дзень 21 кастрычніка сёл. адкладваецца дзеля таго, што дагэтуль яшчэ не праведзены выбары дэлегатаў. Некатарыя Гурткі і Акружныя Ўправы самі вызначаюць дэлегатаў на маючы быць Агульны Сход Таварыства Беларускае Школы, чым нарушаюць парадак арганізацыі Агульнага Сходу прадбачанага арт. 7 § 31 статуту. Каб Агульны Сход адбыўся і лічыўся правамочным, трэба абавязкава паступаць згодна з вышэй азначаным артыкулам статуту а паіменна:

I. Акружныя Ўправы на сваіх паседжаньнях вызначаюць на Агульны Сход па 2 дэлегаты.

II. Акружныя Ўправы склікаюць зьезд дэлегатаў ад управаў Гурткоў свайго вокругу, на якім таксама выбіраюцца па 2 дэлегаты ад Гурткоў вокругу.

III. Тыя Гурткі, што ня маюць Акружных Управаў, далучаюцца да суседніх вокругаў і сумесна выбіраюць па 2 дэлегаты як ад аднаго вокругу.

1) Гурткі Пружанскага павету далучаюцца да Косаўскае Акружнае Ўправы, 2) Гурткі Пастаўскага й Браслаўскага паветаў — да Глыбоцкае Акружнае Управы (Дзісенскі павет), 3) Гурткі Валожынскага й Нясьвіскага паветаў—да Мірскае Акружнае Управы (Стаўпецкі павет), 4) Гурткі Сакольскага павету—да Горадзенскай Акружнай Управы, 5) Гурткі Пінскага павету—да Баранавіцкае Акружнае Ўправы і 6) Гурткі Маладэчанскага павету—да Вялейскай Акружнай Управы.

Увага: 1. Дачасная Паўнамочная Комісыя Таварыства адначасна паведамляе адпаведныя Старасты аб далучэньні Гурткоў менаваных паветаў да адпаведных Акружных Управаў.

Увага: 2. Паведамленьне Гуртком аб сходзе, якія ня маюць сваіх Акружных Управаў, будуць высланы тымі Акружнымі Ўправамі, да якіх гэтыя Гурткі далучаны.

Увага: 3. Сьпіскі Гурткоў і іх адрасы адначасна высылаюцца ў вадпаведныя Акружныя Ўправы.

IV. У тых вокругах, дзе ўжо адбыліся агульныя сходы дзеля выбару дэлегатаў, гэтыя дэлегаты могуць уважацца паўнамочнымі.

V. Дачасная Паўнамочная Комісыя прапануе Акружным Управам як найхутчэй прыступіць да арганізацыі агульных сходаў дзеля выбару дэлегатаў, зазначаючы, што тэрмін сходу будзе вызначаны па атрыманьні ад Акружных Управаў копіяў пратаколаў як сходаў дэлегатаў Гурткоў таго ці іншага вокругу, так і копіі пратаколаў паседжаньнаў Акружных Управаў, завераных як першыя так і другія Акружнымі Ўправамі.

VI. Мандаты дэлегатам ад Акружных Управаў так і ад Гурткоў выдае Акружная Управа.

VII. Дачасная Паўнамочная Комісыя дамагаецца ад Акружных Управаў і ўправаў Гурткоў прыняць энэргічныя меры да збору сяброўскіх складак, а ўсіх сяброў Таварыства заклікае да выкананьня сваіх абавязкаў, узносу сяброўскіх складак, бо нястача срэдстваў затрудняе скліканьня зьезду.

**Дачасная Паўнамочная Комісыя:**
(—) А. *Трэпка.*
(—) *К. Крук.*
(—) *Я. Шнаркевіч.*

## Із Сойму.

Настала восенская сэсыя Сойму. 31 кастрычніка было першае паседжаньне. Урад падаў на разгляд Сойму буджэт на 1929—30 год. Даход 2 мільярды 809 міл., выдаткі 2 мільярды 802 міл.

Урад падаў яшчэ проект зьмены падаткавай уставы. Паводле гэнага проекту мелі-б быць павялічаны падаткі на зямлю і зьменшаны падатак ад звароту (у прамысле й гандлі).

Маршалак Сойму заявіў, што прокурор дамагаецца выданьня суду некалькіх паслоў—двух з „Вызваленьня“, трох камуністых, аднаго із „Сельробу“, двух (Дварчаніна й Валынца) з т. зв. Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу. Дамаганьне гэтае прокурора перададзена ў комісыю адкуль прыйдзе ізноў на пленум Сойму.

На першым паседжаньню Сойму было экспозэ (прамова) аб буджэце мін. скарбу Чаховіча.

Бурнае паседжаньне было другое—6-га ліст., калі былі прамовы над экспозэ мін. Чаховіча. Чыстая бура ўзьнялася ў часе прамовы прадстаўніка Украінцаў, пасла Хруцкага, каторы львоўскія здарэньні назваў провакацыяй украінскага народу і заявіў, што адказным за яе ёсьць урад.

Паміж польскімі пасламі ўзьнялася крыклівая лаянка з тае прычыны, што пас. Марак (П.П.С.) назваў у сваёй прамове гутарку марш. Пілсудскага 1-га ліпня рукавіцай, кіненай усяму польскаму грамадзянству і апошняй лебядзінай песьняй пярэдняга ўраду. На гэта старшыня клюбу Б. Б. пас. Славак заявіў з трыбуны, што ўважае гэтыя словы Маркавы за „bezczelne łajdactwo“.

Наступнае паседжаньне Сойму 13 лістападу.

## Навіны.

— *Курсы для беларускіх жанчын.* Ля Мастовай вул. № 9—20 у Вільні арганізаваны курсы вязаньня свэтраў, хустак, ваўнянай адзежы (дзяцём і вырослым), падушак і г. д. Курсы будуць 6 тыдняў, кожны аўторак і пятніцу ад 7-х да 8-ёх гадзін увечары. Каштуюць 6 зал. за ўвесь час. Хто хоча вучыцца, мае прынесьць сваю воўну й кручок.

Гэтымі курсамі дадзена магчымасьць Беларускам навучыцца вязаць ваўняную адзежу і потым вучыць іншых. Ведама, што ваўняная адзежа, зробленая дома, шмат таньней каштуе і якасьць ейная пераўышае якасьць хвабрычных рэчаў. Пажадана, каб беларускія жанчыны ў вялікай лічбе вучыліся вязаньня на гэтых курсах. Запісывацца на курс можна ў памяшчэньні курсаў перад самымі заняткамі.

— *Беларуская мова ў Варшаўскім у-це.* 6-га лістападу д-р Я. Станкевіч прачытаў першаю лекцыю беларускае мовы ў Варшаўскім унівэрсытэце.

— *Беларускі народны календар-кніжка на 1929 год* друкуецца і скора выйдзе ў сьвет. Календар будзе мець багаты й размавіты зьмест, будуць адзьдзелы: шырака апрацаваны гаспадарскі, праўны, літаратурны і іншыя. Календар можна цяпер заказа-

j=й (моj=мой, jіх=йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. Міцкевіч).

## Новая зямля. 18)

ПОЭМА.

(Глянь № 17 „Народу“).

XXI.

### ТАЕМНЫЯ ГУКІ.

Пад jіншы год у холад люты,
Калі ўсе рэчкі лёдам скуты,
І ўсё пад сьнегам качанее,
Глядзіш—цяплом табе павее,
І з поўдня вецер хмары гоніць.
У вокны дождж буjны зазвоніць
І з капяжоў руччом сьцякае
І сьнег жыўцом ён паядае.
Ськідае лес убор зімовы,
І шум другі на лад-сьпеў новы
Над борам цягне несканчона.
І фанабэрыцца варона:
„Вясна! вясна! гразь! гразь!“ сьпявае,
Як-бы вясну ўжо сустракае.
Паміж алешніку зьмяёю
Крыніца чорнаj паласою
На сьвет зірнула, лёд прабіла,
Ў старых карчох загаманіла
І палыселі касагоры,
Вадою поўняцца разоры,
Бяжыць, шуміць вада ў лагчынах,
І лёд уздуўся ў вазярынах,
Дарогі ў полі усе псуюцца,
Аб крыгі крыгі з шумам труцца.
І луг заліт увесь вадою,
Як і запраўднаю вясною.
Ды гэта толькі кпіны-жарты:
Зімоj цяпла чакаць ня варта—
Зіма сваjго не падаруе
І злосна ветрам засьвідруе
Ды так пацягне, так заграе,
Што проста нос табе зрывае.
І выюць ў полі завірухі,
Як за труною маладухі,
На лес накідваюць наміткі
І робяць гурбы ўвачавідкі.
Варона гонар своj збаўляе,
Ды зноў да сьметніку вітае
І своj жывот галодны пыніць,
На сьпевы дзюба не рашчыніць.
Дзярэўя*) ў белы пух убраны,
І сьнегам „лысіны“ засланы;
Застылі рэчкі, азярыны
Пад гнётам белаj кажурыны.
Лёд на лугох, як люстра, зьзяе,
І сонца зрэдка ў jім гуляе...
Настане ноч—і ўсёды ціха,
Хіба завые дзе ваўчыха
Сярод трушчобы ў цёмным лесе
Ды гучна лусьне гонта ў стрэсе...
Але што гэта? што за гукі?
Адкуль яны? Чые то рукі
Забілі цяжка малатамі,
Як тыя коні капытамі?
Якія там маjстры маjструюць?
І што куюць? над чым працуюць?
Стаjіш і ловіш зыкі тыя,
А луг трашчыць, гудзе і вые;
То рэзкі трэск там панясецца,
Бы чорт лазаты засьмяецца,
То заскавыча, то застогне,
Ды так, што ўсё, здаецца дрогне;
Ня-то сякера мерна чэша,
Ня-то хтось кашляе ці брэша.
Гу-гу!—штось гукне, здрыганецца,
Бах-бах!—на гук тоj адазьвецца,
І аж па лесе поjдзе рэхам
Ды зарагоча дробным сьмехам
То тут, то там ды як засьвішча—
Як-бы там чортава jігрышча!...
Ўсю ноч, ад рэчкі і па Нёман,
Ушыр, удоўж нясецца гоман
Няўцямны, сьцішны і таемны
І разам страшны і прыемны.
А ноч ціхутка; ў багне цёмнаj
Пустэлі страшнаj і бязмоўнаj
Гарацьдрыготна, зьзяюць зоркі,
Як наjдарожшыя пацёркі,
То паасобку, то гурткамі,
То брыльлянцістымі радкамі,
І jіх пучочкі-злотаблёсткі
Наўкола кідаюць пялёсткі:
Яны гарацьь, жывуць і граюць,
Бы вочкі там чыесь міргаюць;
Ды зрэдка ў небе дзесь далёка
Над лесам тым у момант вока
Мігнецца стужка агнявая—
То зьнічка згасьне залатая.
Вось выjдуць хлопцы гуртам з хаты
На гэты час, як неба шаты
Раськіне ґожа над зямлёю
І вее згодаю сьвятою.
—Ша! ціха вы, не гаманеце!...
О, што-ж-та дзеецца на сьвеце?—
І хлопцы разам заціхаюць
І на Алеся пазіраюць;
Алесь замёр, зьдзіўленьня поўны.
Глядзіць у луг, стаjіць бязмоўны,
У бок лугоў руку трымае.
—Во, во! што, чуеце? страляе!
—Што гэта, хлопцы? вось дык дзіва!—
Дарэктар шэпча палахліва:—
Няўжо зь Нясьвежа б'юць гарматы?—
І Яська кінуўся да хаты.
—Оj, дзядзька, цётка!—ён галосіць,
І неjкі рух яго аж носіць:—
Jідзеце борзьдзенька, jідзеце.
Там штось грыміць, ну, паглядзеце!—
І так завоjкаў, так завохаў,
Што ўсіх у хаце напалохаў.
—Ну, я табе, брат мала веру:
Перабіраеш трохі меру,—
Антось на гэта адазваўся,
Але на двор пашыбаваўся,
Кажух накінуўшы на плечы;
І маці прасьніцу да печы
Таксама ставіць, прысланяе,
На двор за jімі выпаўзае.
Пасталі ўсе, стаяць маўкліва
І вухам ловяць тое дзіва.
А луг бубніць таемна, глуха,
Як-бы ў кадушку б'юць з-за вуха.
—А што, ці чуеце? Што гэта?—
Дарэктар ціханка цытае;
Самога страх так і шугае.
—Эх, Яська, брат, ідзе камэта!
Прапалі мы—сканчэньне сьвета!—
Антось гаворыць, чуць ня плача:—
Прапаў ты, Яська, небарача,
І не пабачаш бацьку з маткаj,
Хоць папрашчаўся-б з роднаj хаткаj:
Яе ўжо бачыць не надзеjся!
—Не, дзядзька, што гэта, ня сьмеjся,—
Антося хлопцы абступілі
І разам тут загаманілі.
—Ідзеце ў хату!—кажа маці:—
Калі ўжо гінуць—гінь у хаце.—
Адразу хлопцы схамянуліся,
Што ў неjчым моцна абмануліся,
І стала болеj jім цікава,
У чым тут сіла тая, справа.
Антось у хату jдзе, рагоча,
Тлумачыць зразу ён ня хоча:
Ахвоту меў такі, прызнацца,
Ён трохі зь Яські насьмяяцца,

*) Маск., пакрыв.—дзеравы або дзярэўе (убрана).

ваць, а ў хуткім часе можна будзе купляць у ўсіх беларускіх кнігарнях у Вільні, Лідзе, Валожыне, Маладэчане, Ашмяне і іншых. Можна так-жа выпісаваць пераз Рэдакцыю „Народу“.

— *Беларуская Гімназыя ў Вільні дастала правы публічнасьці.* Нягледзячы на ўсе перашкоды й правакацыі, каторыя ў вапошнім часе рабіла гімназыі інтэрнацыянальная група, Беларуская Гімназыя ў Вільні нядаўна дастала правы публічнасьці, аб чым віленскі куратар пісьменна наказаў дырэкцыі гімназыі.

— *Зьезд Т-ва Беларускае Школы адложаны.* Як наказуе Паўнамочная Комісыя Т-ва Беларускае Школы ў прысланым у „Народ“ абвешчаньні, каторае друкуем ніжэй, зьезд Т-ва Беларускае Школы адложаны. Час зьезду будзе назначаны тады, калі Паўномочн. Комісыя дастане пратаколы аб выбары дэлегатаў на мясцох.

— „*Сон Гаўрылы*“ і розныя вершы. Пад гэт‘кім назовам выйшла ў выдавецтве У. Знамяроўскага кніжка Улад. Іяіцкага. Кніжачка выдадзена чыста й хораша. Стар. 32 у $16^0$. Цана 45 гр.

— „*Казкі*“ *А. К.* Той-жа Ул. Знамяроўскі зрабіў новае выданьне кніжкі „Казкі“ А. К. Стар. 32 у $16^0$. Цана 40 гр. Абедзьве кніжкі прадаюцца ў Беларускіх Кнігарнях у Вільні, Лідзе, Валожыне, Маладэчане, Ашмяне і іншых.

# ЛІСТЫ.

## Ня сьпіце сяляне.

(*в. Капачы, Палачанскае вол., Маладэчанскага павету*).

Сумна жывецца ў гэтыя часы ў нашай і іншых вёсках каля нас. Дзе ні глянеш, нідзе не абачыш хаця-бы крыху свае роднай культуры. Праўда, што народ каля нас бедны, а да таго яшчэ і няпісьменны. Мала цікавіцца сваёй роднай культурай. Ня відаць каб хто небудзь узяў у рукі і прачытаў беларускаю газэту, а калі сам ня можа, дык хацябы паслухаў таго, хто можа чытаць. У нас чамусьці гэтага зусім ня бывае. У нядзелю ці якое сьвята, зьбяруцца часам некалькі мужчын старыхоў, пагутарадь аб гаспадарцы, пабачаць як моладзь забаўляецца скокамі ў Жабаедзіка, дый разыйдуцца па сваіх хатах. Калі пабачыш, як у іншых вёсках закладаюцца т-вы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, адчыняюцца бібліатэкі—чытальні, ладзяцца спэктаклі, складаюць дэклярацыі на беларускія школы, дык ажно цяжка й смутна робіцца на душы, што ў нас ціха і здаецца шмат зрабіўбы на ніве роднай асьветы і культуры, але на гэта трэба помачы ад сялян, якія, нажаль, сьцюдзена адносяцца ў нас да гэтай працы. Дарагія браты Беларусы! досыць нам гэтае партыйнае грызьні. Трэба нам далучыцца да такіх правадыроў, каторыя імкнуцца і працуюць над пашырэньнем асьветы і культуры, і ўсім, як адзін,ісьці да свае роднай асьветы легальна й адкрыта. Дык закладайце-ж Таварыствы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, закладайце бібліотэкі, пашырайце й чытайце сваё роднае беларускае слова.

Грамадзяне-Беларусы! Кожны з вас павінен помнець, што ён Беларус і мае сваю Бацькаўшчыну і мае сваю родную мову. Мы павінны яе шанаваць і пашыраць.

*Я. К.*

## Патрэбы вёскі.

(*в. Капачы, Палачанскае вол., Маладэчанскага павету*).

Шмат у газэце пісалася аб розных справах, аб балячках нашага сялянскага жыцьця на вёсцы, але нажаль, мала зварочваецца ўвагі на коопэрацыю. А тымчасам гэта ёсьць для нас вельмі важная справа, бо-ж просты шлях ідзе праз коопэрацыю да ашчаднасьці, а праз ашчаднасьць—да культурна-гаспадарскага вызваленьня. На сяле коопэратываў надта мала. А яны маглі-б прынясці сялянам вялікаю карысьць, бо замест таго, каб бегчы па газу, соль ці мазь, да Маладэчна за 12 кілёмэтраў ад вёскі Капачы, дык можна было-б купіць у вёсцы, а як у коопэратыве, дык яшчэ і таней. Праўда, у некаторых вёсках маюць крамкі, так як у Хажове Рымант або Галабурда. Дык-жа яны так дзяруць скуру зь селяніна, што чалавек аж за галаву хапаецца, прыраўняўшы яго цэны з меставымі. Але-ж за гэта жыды і багацеюць хутка. Глядзіш які-небудзь Бендзік скупляваў дабро па вёсках праз гады 3, а потым ужо і вагонамі адпраўляе. Але наагул узяць, дык наш сялянін не такі як жыд, ён ня ўмее так пражыць, так зьбіраць грош да гроша і балей у крамцы за дзень зьесьць хоць-бы зярнят гарбузовых ці цукеркаў, як утаргуе.

Коопэратывы ў мястэчках яшчэ важнейшыя, затым, што ў сыботу жыдом таргаваць ня можна, і дзеля таго ў сыботу ў іх нічога ня купіш, а як ёсьць коопэратыў, дык усё можна купіць у коопэратыве.

Трэба, каб коопэратывы па вёсках і мястэчках закладаваліся як найболі! Ёсьць Беларускі Гаспадарскі Зьвяз. Мне здаецца, што гэтым-бы павінна заняцца кожнае таварыства Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, бо-ж справа коопэрацыі належыць да культурна-гаспадарскіх справаў. Трэба закладаць супалкі малачарскія, яечныя і інш. На правінцыі было напрыклад: дзесяток яец каштуе 60 гр., а ў Вільні 1 зл. 30 гр. Яно ведама, каб добра была зарганізована яечная супалка, дык вясковыя жанчыны маючы часам па 20—30 курыц, маглі-б добра зарабляць. Узяць, напрыклад, Пазнаншчыну, дзе коопэрацыя пастаўлена добра, дык там рэч зусім іншая, і жыд у вёску ніколі не загляне ў гандлёвых справах. Дык Таварыствы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, павінны станоўка заняцца гэтай справай. Гэтага даўно чакае наш народ.

*Я. К.*

Дня 30—IX—28 г.

# Провокацыя проці беларускай гімназыі ў Вільні.

Інтэрнацыяналістыя, захапіўшы ў свае рукі Беларускаю Гімназыю ў Вільні, імкнуліся зрабіць зь ейных гадунцоў верных сабе й інтэрнацыяналу слугак і аднача сна людзёў чужых свайму беларускаму народу. Але сёлета ўвосень Белар. Гімназыя ў Вільні выкаўзнула з рук інтэрнацыяналістых і лучыла ў беларускія нацыянальныя рукі. Адгэтуль інтэрнацыяналістыя пачалі рабіць усялякія провокацыі проці Гімназыі, хочучы дабіцца, каб яе ўлада зачыніла; ад іх можна было чуць, што калі Гімназыя будзе ня ў іхніх руках, дык ляпей каб яе зусім ня было. Усім, хто бліжэй стыкаецца з жыцьцём Гімназыі, ясна, што выступаючая пад беларускім „пралетарскім“ сьцягам інтэрнацыянальная віленская шайка на чале з Дварчанінам дабіваецца сваімі провокацыямі зачыненьня ўладаю Гімназыі. Провокацыеў гэтых, арганізаваных бяссумлеву па загаду й учасьцю Дварчаніна, шмат, але ўспомнім толькі крышку аб тых, што сталіся агульна ведамымі. Гэтак кучка гімназыстых наўмысьля пяяла пад дзьвярмі пакою Беларускага Студэнскага Зьвязу, калі ў тым пакою былі паседжаньнпрэзыдыуму Беларускага Студэнскага Зьвязу. Тая-жі кучка перашкаджала чытаць рэфэраты ў Бел. Студ. Зьвязе (лекцыя Г. Вялецкага). Калі Беларускі Студэнскі Зьвяз арганізаваў для сваіх сяброў сьцяг *навуковых* лекцыеў і пісьменна папрасіў лектароў чы-

А хлопцы галавы ўскруцілі,
Ў хаду ўсе спосабы пусьцілі,
Најсьці прычыну тую кваляць,
Але на сьлед ніяк ня трапяць.
—Ну, дзядзька, годзе ўжо сьміяцца:
Самым нам трудна дагадацца,
Адкуль, з чаго такія гукі?
—А ты-ж выкладваеш навукі
І јімі розум твој начынен,
Ты гэта ведаць сам павінен:
Які-ж зь цябе настаўнік, браце?
Ня многа-ж гэтага багацьця
Ў тваёј галоўцы, мој нябожа! ..
Ну, хто дарэктару паможа?—
Тут дзядзька вучняў аглядае:—
Напэўна Костусь адгадае...
Ну, Костусь, брат, зрабі јім брыдка:
Тут штука проста, вачавідка!—
І ўсе на Костуся зірнулі,
Але адказу не пачулі.
—Кажы сьмялеј! Ну, думаць годзе,
Ты-ж любіш коўзацца па лёдзе!...
—Бадај вы, дурні, пагарэлі!—
Прамовіў бацька тут з пасьцелі;
Ён там драмаў, цяпер падняўся
І сам у гутарку ўмяшаўся,
Каля камінку стаўшы збоку.
—Няўжо-ж у вас ня хопіць клёку
Такое глупства расшалопаць?
Па мордзе-б вас, гадоў, нашлёпаць,
Тады-б вы сьцямілі навуку,
Најшлі-б прычыны тога груку!—
Маўчаць яны, насы спусьцілі,
Сядзіць дарэктар, як на шыле—
Нагналі-ж чэрці јім занозу.
—Дык гэта-ж лёд трашчыць з марозу!
Алесь і Костусь выпадкова
Гукнулі разам ў вадно слова.
Тут бацька зразу адпусьціўся,
Павесялеў і праясьніўся.
—Вось малајцы! . а вы што цесьлі?
Гулу вам меншыя паднесьлі.
Адзін—бальшун, другі—дарэктар
І тлумачэньнік разам, лектар...
Фэ! брыдка вам!—јіх дзядзька журыць,
А Ўладзя толькі бровы хмурыць.
—А еј, якая мудрасьць гэта:
Яе забыў я трэцьце лета!
—О, ты Сальмон у нас вялікі,
Як на чытаньне, так на лікі,
А вось скажы, калі ты кемны:
Чаму трашчыць так лёд надземны?—
Другая вынікла задача;
Пацее Яська, чуць ня плача,
Сказаць штось хоча і бајіцца
Утраціць гонар, памыліцца,
І Ўладзя вочы апускае.
—А справа бачыце, такая,—
Антось тут сам пачаў тлумачыць:—
Была паводка гэта, значыць,
Вада па лузе разьлілася,
А потым лёдам занялася,
Мароз падскочыў ды прыціснуў,
Вада і зьбегла, лёд павіснуў;
Цяпер наніз ён ападае,
А лёд таўшчэрны, важкасьць мае,
А паміж лёду і вадою,
Ўнізе пад мерзлаю зямлёю
Пустое месца застаецца,
І вось як глыза здрыганецца,
Яна і грукне, як з гарматы...
Ну, зразумелі, небажаты?
—І я так думаў,—Ясь азваўся:—
Ды толькі выказаць баяўся.
—І я даўно ўсё гэта ведаў,
Але маўчаў.. —Ты, бізун дзедаў!—
На Ўладзю бацька напусьціўся:
Глядзі: я бачу—распусьціўся!
Маўчаў-бы лепш ды хоць шалопаў
Ды менш губою гэтај лёпаў...
Ня будзе сэнсу зь цябе, хлопча:
У гразь жыцьцё цябе затопча
З тваёј навукај гэтај разам,
І будзеш век ты коламазам!
—Ну, што-ж? і колы мазаць трэба,
Абы які кусок мне хлеба,—
Тужліва Ўладзя зазначае
І сьмех агульны выклікае.
—А вось і я пытаньне маю!
Чакајце-ж: я вас папытаю,—
Да старшых Костусь прамаўляе
І гнеў ён бацькаў адхіляе:—
А што, скажэце, зорка значыць,
Якој ніхто мо‘ і ня бачыць:
Яна маланкај мігатнецца
І згасьне. Дзе-ж яна дзяецца?
І да зямлі не далятае,
А проста дзесь яна зьнікае?—
І змоўклі ўсе адразу ў хаце:
Як адказаць? З чаго пачаці?
—Ага!—тут хлопцы падхапілі:—
Цяпер і мы вас ушчамілі!
—Што нам з таго, што гінуць зьнічкі?
І клопат будзе невялічкі,
Калі прычын јіх знаць ня будзем:
Якая зь јіх карысьць тут людзям?—
Бярэ сам бацька перша слова:—
І зьява гэтая—ня нова:
Яны што-ночку вынікаюць,
Але бязь сьледу прападаюць.
То—тајнасьць божжа, яго воля,
Чаго мы, людзі, мо‘ ніколі
І не дазнаемся, як трэба,
Бо то—вялікая вучэба.
—Чаму? дазнацца, мо‘, і можна,—
Гаворыць дзядзька асьцярожна:—
І пэўна ведае навука,
Што астраноміај завецца,
Адкуль тут што і як бярэцца.
Замыславатая то штука,
А вось, як будзеце вучыцца,
То можна сэнсу і дабіцца,
Бо помню я, як сам вучыўся,
Нам штось пра јіх казалі ў школе
І вытлумачвалі даволі,
Але цяпер пра то забыўся.
—І я,—тут маці засьміялась,—
Сказаць хацела, ды збаялась,
Як раз, як наш дарэктар гэты.
Калі стваралісь Богам сьветы,
Па зорцы сьветлај чалавеку
Назначыў Бог сьвяты спрадвеку;
Яна жыцьцём яго кіруе
І лёс яго і сьмерць пільнуе.
Чым больш зь людзеј хто выдатнејшы,
Таго і зоркі блеск ясьнејшы.
І гасьне зорачка сьвятая,
Калі даручаны сканае:
Вось так на небе аднача сьне
Яна мігнецца і пагасьне,
Як-бы хто з жалю вочкі ўськіне
І невядома, дзе загіне
І неба слых тагды прыклоніць,
І анёл сьлёзку ціха зроніць...
Як я была яшчэ малою,
То дзед, бываючы ў настрою,
Часамі вёў апавяданьні
Аб гэтым зорчыным зьніканьні,
Яшчэ казаў: „Калі хто зможа,
Пакуль ня згасьне служка божжа,
Задумаць што ў момэнт бліска ньня,
Таго ўсе споўняцца жаданьні“—
Для хлопцаў гэта тлумачэньне.
Најболеј мела здаваленьня,
І ўсе јіх думкі мімаволі
Блукалі дзесь у божым полі;
Јіх захапляў сьвет безгранічны
І собскі[96]) лёс јіх таямнічны.

тацць гэныя лекцыі, дык на першай лекцыі д-ра Я. Станкевіча гэная-ж кучка пачала перашкаджаць кашдляньням. Падобная провокацыя на лекцыі кс. Гадлеўскага была адменена, каб не зьмяншаць уражаньня ад выступленьня на лекцыі Станкевічавай.

Гэтыя арганізаваныя хуліганскія выступленьні кучкі гімназыстых прымусілі Ўрад Беларускага Студэнскага Зьвязу падаць Дырэкцыі Гімназыі пісьменную заяву, дамагаючыся ўсй пацягнуць да адказнасьці хуліганаў. Пэдагогічная Рада Гімназыі за гэтыя хуліганствы выдаліла зь Гімназыі 4-х гімназыстых (у гэтай лічбе Міску й Тарасюка). Пасьлей, прыймаючы пад увагу, што гэныя хлопцы рабілі хуліганскія выступленьні па сваёй цямноце, будучы здурненыя й падвучаныя безадказнымі людзьмі, Пэд. Рада прыняла іх ізноў у Гімназыю, ставячы тры з павядзеньня.

Зацемім, што ня толькі ворган віленскіх інтэрнацыяналістых, розныя „Працы«, але й ведамая сваімі нягоднымі выступленьнямі проці заслужоных беларускіх дзеячоў „Сял. Ніва“ ды навет „Bieł. Krynica“ з прычынаў асабістых пахвалілі гэныя хуліганскія выступленьні і раструбілі аб іх. Ганьба гэтым часапісам!

---

### *Кара за хуліганства.*

22 кастрычніка д-р Я. Станкевіч, увайшоўшы ў памяшчэньне Беларускага Гаспадарскага Зьвязу ў Вільні, застаў там студ. Юльяна Саковіча. Апошні пры ўходзе д-ра Я. Станкевіча ўстаў, працягіваючы да прывітаньня руку. Д-р Я. Станкевіч адказаў, што ён не падае рукі людзём, што належаць да шайкі, каторая арганізуе хуліганскія выступленьні. Ю. Сак., як апараны, пачаў крыклівым голасам і проста крычачы апраўдавацца. Калі гэта не памагло, загадаў Ю. С. выйсьці і доўга не чакаючы, узяўшы рукой за каршэнь і „вельмі недалікатна“ памагаючы другой, выпхнуў яго за дзьверы. Ю. Сак. з плачам пайшоў жаліцца сваім сябром.

У „Працы“, „Сял. Ніве“ і „Bieł. Krynicy“ зьявіліся перакручаньня, нязгодныя з праўдай весьці аб гэтым стацьці з мэтай скомпромітаваць д-ра Я. Станкевіча. Апрача ведамай злосьці да д-ра Я. Станкевіча, менаваных газэтаў мана ў іх залежыла, ведама, яшчэ ад фальшывай інформацыі самога Ю. Саковіча. Але што менаванае стацьцё компрамітуе вылучна аднаго Ю. Саковіча, відаць навет з таго, што жадная з гэных газэтаў, друкуючы аб здарэньні, не называе прозьвішча Саковіча. *к.*

---

## „Студэнская Думка“*).

Кожны сьвядомы Беларус, дастаўшы „Студэнскаю Думку“ запраўды ўсьцешыцца зь яе здаровага нацыянальнага кірунку. Апошні нумар ня розьніцца з гэтага боку ад нумароў пярэдніх, відаць інтэрнацыяналістым не ўдалося зьбіць нашых студэнтаў із праўдзівае дарогі.

Зьмест нумару цікавы і даволі ўважна забраны.

На пачатку маем патрыятычны верш Бартулёў, далей вельмі харошая, поўная зразуменьня справы адозва Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыеў у дзесятыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Хоць адозва друкуецца позна з прычыны даўгога нявыходжаньня часапісу, але вельмі яна патрэбная. Адозву дапаўняе стацьця А. Коўзана „Ідэал незалежнасьці і беларускае студэнства“. Радзілі-б толькі аўтару стацьці навучыцца пісаць балей беларускім стылям і ня гэтулькі блытаць славамі. З галіны пэдагогічнай знаходзім стацьцю Мік. Ільляшэвіча „Ян Гэнрых Пэсталёцы“ і пэдагогічна-псыхолёгічнаю „Аб прывычцы ў самаўзгадаваньні“ Ст. Грынкевіча. Абедзьве стацьці маглі-б быць мацнейшыя, мо цікавейшыя, а апошняя яшчэ й ясьнейшая. Ст. Грынкевіч ёсьць рэдкім чалавекам у нас, каторы запраўды шануе роднаю мову. На жаль, ня будучы языкаведам, ён прыймае на веру ў сваю беларускаю мову ўсё, што кім колечы паказана ці створана якбы арыгінальнае. Дык за сваё прыймае шмат чужога або выкрыўленага, ад чаго мова робіцца цяжкая і меней беларуская. Радзілі-б яму меней давяраць слоўніку В. Ластоўскага. Стацьця В. Аралецкага „Украінска-беларускія студэнскія ўзаемаадносіны“ цікаўная дзеля гэтых адносінаў і важная сваімі разумнымі выраслымі з жыцьця паглядамі на працу дзеля сваіх народаў беларускіх і ўкраінскіх студэнтаў.

Літаратурная часьць часапісу пачынаецца моцным і з талентам напісаным апавяданьням Аўгеня (а не Аўгенія) Бартуля „Разаб'ю я ліру маю“... У першай сваёй часьці апавяданьне гэтае чыста патрыятычнае. Добра аўтар кажа, што „Праступкам будзе, калі мы, аддаючыся ўласнаму шчасьцю, хоць на хвілю забудзем, што Народ наш у няволі. Праступкам будзе, калі раскошны звон шчасьця асабістага заглуша звон хваляў цярпеньня людзкога“. Ці-ж трэба, здаецца, сумлявацца, што гэтае „людзкое“ ёсьць людзкоэ - беларускае, бо ціж цярпіць так які-колечы народ, як наш? І ці маем мы права, адняўшы хоць часьць нашае сілы ад працы для народу нашага, найбалей абяздоленага, даць яе народам шчасьліўшым? Ведама, што не. І гэта пацьвярджае сам аўтар сваёю моцнаю прысягаю ў тым-жа апавяданьню: „Народзе наш, прысягаем табе шумам ніў родных, усходам сонца—сымбалям Твайго нараджэньня; прысягаем на хаты старыя, мохам парослыя, на магілы-курганы слаўных прадзедаў нашых, што *мы—Твае непадзельна, толькі Твае*“ (подчырк мой—*Дав.-Мас*).

„Думка наша, мроя наша - гэта Ты. Адкідаем усё і ідзем служыць Табе. Народ наш—і ўсё! Служэньне яму—вось мэта жыцьця нашага!“.

У другой палове апавяданьня аўтар якбы вяўцямкі, піха ламае сваю прысягу, паддаючыся ўплыву інтэрнацыянальнаму. Было-б надта доўга чакаць, што „Народ наш паўстане да працы вялікае“ калі „запануе шчасьце“ „і народзіцца нанова сьвет“. Наагул аб сьвеце мы не патрабуем лішне рупіцца, сьвет ня зьгіне, бо аб ім... рупіцца Дварчанін, а мы лепей парупімся аб сваім Народзе.

Пад канец ідуць вершы лепшыя й горшыя („Пережытае“). Верш „З рэстаранных матываў“ лепей было-б пакінуць для рэстаранаў і не псаваць ім „Ст. Д.“ А аўтару прыпомнім ягоных заклік у вышэй прыведзеным апавяданьню: „Аскеза патрэбная нам, сіла волі, сіла жывая павінна скупіцца ў вадзін магутны высілак—тварыць шчасьце для ўсіх“. (Беларусаў! згодна з „прысягай“). Актуальнае пытаньне закранена ў вартыкуле „Аб патрэбе стварэньня студэнскай меншасьцёвай арганізацыі“ Т. М.

На канцы маем „Замест адказу“ крытычны, агляд дзейнасьці ст. Зьвязу і навіны.

---

*) „Студэнская Думка“, грамадзка-навуковы й літаратурны часапіс Беларускага Студэнства. № 3 (10) Вільня, верасень-кастрычнік 1928 г. Цана асобнага экз. 1 зал.

## Беларуская Акадэмія Навук.

Нядаўна Інстытут Беларускае Культуры ў Менску пераўтвораны ў Беларускаю Акадэмію Навук. Пераўтварэньне гэтае мае вялізарнае значэньне для беларускай асьветы, навукі і беларускай справы наагул.

## Дзівосы й сьмяхоты.

* * *

Нядаўна на адным пахове муж, здавалася сьвядомы Беларус, на магіле свае жаны паставіў крыж із напісам у маскоўскай мове. Вось дык нявольніцтва ўелася ў косьці! Ярэміч таксама на магіле свайго сына паставіў помнік із напісам... папольску. Трэба на кожным кроку выбіваць гэтае нявольніцтва.

---

## Свая пошта.

— **Бэнэд Плоскі.** 2 пробныя нумары „Н“ дастанеце.

— **С. Браўдз.** „Народ“ пасылаем.

— **С. Барану.** „Народ“ пасылаем, выбачайце за перарыў, гэта віна экспэдытара.

— **Ксавэры Шэйпак.** Пробны нумар пасланы.

---

*Прачытаўшы, не зьнішчай, але дай прачытаць д р у г о м у.*

## Да нашых падпішчыкаў

**Лідзкай, Валожынскай і Маладэчанскай вол. і іншым.**

Каб „Народ“ лепей даходзіў, дык, пачынаючы з гэтага нумару, падпішчыкам Ліды й Лідзкай вол. пасылаецца на Беларускаю Кнігарню ў Лідзе, Замковая 8; падпішчыкам Валожына й Валожынскай вол. пасылаецца на Беларускаю Кнігарню ў Валожыне, Рынак N 27, падпішчыкам Маладэчана і Маладэчанскай вол. на Беларускаю Кнігарню ў Маладэчане, рог Замковай вул. і рынку і падпішчыкам Ашмяны й ваколіц на Беларускаю Кнігарню ў Ашмяне, Альшанская вул. N 3.

## Беларускія кнігарні.

Адчынены нядаўна гэткія Беларускія Кнігарні:

1) у **Лідзе**, Замковая вул. № 8;

2) у **Валожыне**, Рынак № 27;

3) у **Маладэчане**, рог Замкавай вуліцы й рынку;

4) у **Ашмяне**, Альшанская вул. N 3.

Кнігарні прадаюць усе беларускія кніжкі, газэты, а з польскіх ш к о л ь н ы я падручнікі.

Апрача таго ў кнігарнях прадаюцца ўсе пісьменныя й канцылярскія прылады.

Цэны не дарожшыя, а часта навет танелыя, як у Вільні.

На жаданьне на прысланыя грошы кнігарні высылаюць кніжкі і пісьменныя матар'ялы ў якое любя месца.

Беларусы, купляйце ў сваіх кнігарнях.

---

## А б е с т к а.

У Рээстр Сябрын (Коопэратываў) Акружнога Суду ў Вільні дня 8. IX. 1928 г. пад N 677 зроблены гэткі ўпіс:

R. H. Sp. I.—677. Фірма: „Хатні Прамысл, гандлёвая сябрына (коопэратыў) з агранічанай адказнасьцяй у Вільні“. Сяліба ў Вільні, ля Астрабрамскай вул., 15—3. Адказнасьць сяброў за забавязаньні сябрыны заяўленымі паямі і апрача таго дваццацькратная ў адносінах да заяўленага паю. Мэтаю сябрыны ёсьць падняцьце й арганізаваньне хатніх прамыслоўцаў цы ім блізкіх і апрача таго імкненьне да развою й дасканальненьня хатняга прамыслу з помачай гандлёвых дзейнасьцеў; дзеля дапяцьця гэтата сябрына гуртуе й арганізуе хатніх прамыслоўцаў, нажывае й прадае прадметы хатняга прамыслу, эвэнтуальне дастаўляе сырызну, прылады й машыны таму-ж прамыслу ды супрацоўнічае з таварыствамі й арганізацыямі хатняга прамыслу. Пай — 12 залатовак, плачаных аднаразова пры ўступленьню ў сябрыну або ў 4 роўных месячных ратах у працягу году, пры гэтым першая рата павінна быць заплачана пры уступленьню ў сябрыну. У ўрад (праўленьне) абраны, жыв. ў Вільні: інж. Міхал Гузоўскі, ля Астрабрамскай вул. 15; Марыя Станкевічыха—ля Тургельскай вул. 22 і Альжбета Коўшыха—ля Летняй вул. 7. Час быцьця сябрыны неагранічаны. Часапіс, назначаны да абестак—„Народ“. Год справаздаўчы каляндарны. Сяброў Ураду 3; заявы ад імені сябрыны падпісуюць два сябры ўраду пад фірмоваю пячаткаю. Правілы аб ліквідацы згодныя з адпаведнымі правіламі ўставы аб сябрынах з дня 29 кастрычніка 1920 г.

---

11. VII. 28 г. ўкрадзена вайскавая кніжачка й карта мобілізацыйная № 3334 у месьце Лідзе, Ганчарскай воласьці, вёскі Агароднікі I, Віктара Шулейкі.



Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ“, Сьвята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.